У нумары: Зелянеюць сенажаці · „Павук" · Нараджэнне клуба

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 29 (438) | ГОД IX | 19 ЛІПЕНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


## ТЭМПАМІ НАШАГА ЧАСУ

На ўскраіне старой Белавежскай пушчы раскінуўся горад Гайнаўка, які сёння пульсуе творчай працай і прадстаўляе сабой важны цэнтр нашай драўніннай прамысловасці.

Пушча з даўніх часоў была сведкам велікапанскіх паляванняў і сялянскай галечы. Тут палявалі на зуброў каралі і цары, магнаты і саноўнікі санацыйнай Польшчы.

У 1916 годзе пачало расці мястэчка Гайнаўка. Нямецкія капіталісты адкрылі тут крыніцу велізарных даходаў. Узнікла прадпрыемства сухой дэстыляцыі драўніны, лесапілка, фабрыка тэрпентыны. Мястэчка і навакольныя вёскі давалі танную рабочую сілу.

### У ГАДЫ ПАНСКАЙ ПОЛЬШЧЫ

За 20-годдзе панавання буржуазіі ў гайнаўскія прадпрыемствы не было ўкладзена ні граша. Асноўная маса насельніцтва — малазямельныя і сярэднезямельныя сяляне жылі ў нэндзы. Сезонная праца ў багачоў або ў лесе за грашовы заробак павялічвала пачуццё крыўды. На ўсю гміну была толькі адна сямігодка. Не было ніводнай святліцы. Ні адна грамада не мела электрычнасці. Лыкавыя самаробныя лапці, жывёльная соль замест белай, якую купляла 80% жыхароў гміны, крэсіва замест дарагіх запалак, цукар толькі на свята — гэтую карціну добра памятаюць старэйшыя. Адсталая сельская гаспадарка, адсутнасць сельскагаспадарчых

(Працяг на стар. 3)

У XX гадавіну Адраджэння Польшчы членам, сімпатыкам Б.Г.К.Т. і чытачам „Нівы" жадаем поспехаў у працы і шчасця ў асабістым жыцці

ГП БГКТ і рэдакцыя Нівы


Гайнаўская лесапільня.


Панарама Гайнаўкі




В. Рудчык: БІЛІ МЫ БАНДЫТАЎ.

М. Гайдук: ПАЧАТАК ШКОЛЬНІЦТВА Ў БЕЛЬСКУ.

У. Паўлючук: ЯК СТАЦЬ ЧАРАДЗЕЕМ.

## ЗАМЕСТ КВЕТАК

Каб выявіць свае пачуцці каханай асобе, часта дарым ёй кветкі. А вось гэтай прыгажуні, якой толькі што спаўняецца 20 год, людзі замест кветак прыпадносяць уласную шчырую і карысную працу — свае абавязацельствы.

На Беласточчыне ў гонар IV З'езда ПАРП і Дваццацігоддзя народнай дзяржавы людзі абавязаліся так шчыра папрацаваць дзеля агульнага дабра, што іх праца ўзбагаціць супольную маёмасць павета на 17 мільёнаў злотых. Абавязацельствы, аказваецца, незвычайна высокія.

Жыхары вёсак і гарадоў Бельскага павета ўмеюць не толькі рабіць прыгожыя абяцанкі. Яны таксама патрапяць ажыццяўляць іх. Паводле першых падлікаў да першага ліпеня бягучага года яны выканалі ўжо столькі працы грамадскім чынам, што вартасць яе складае 5 мільёнаў злотых.

Асабліва ахвотна выходзілі людзі да працы ў дні, калі ў Варшаве праходзіў IV З'езд нашай партыі. Вартасць усяго таго, што было тады зроблена грамадскім чынам, аблічваюць статысты на 337.350 зл. Працавала 2.800 асоб, 930 фурманак і 4 самаходы. Вось баланс гэтых вялікіх дзён.

(Працяг на стар. 5)




Якой мерай можна мераць перыяд дваццацігоддзя? Толькі лічыць гады? Гэта было б найсправядлівей, каб перыяд да перыяда быў падобны. Інакш будзе ацэньваць дваццацігоддзе чалавек, які шмат перажыў і пабачыў, а інакш чалавек, толькі пачаўшы самастойнае жыццё пасля вызвалення або ў час вайны. Іншых параўнанняў будзе шукаць той чалавек, маладыя гады якому адабрала акупацыя, калі чалавек гуляў са смерцю, пераносячы рэвальверы і нелегальную літаратуру ў футарале пад скрыпкай. З задавальненнем можам глянуць сёння на пройдзены гістарычны шлях, шлях сацыялістычных змен за дваццацігоддзе. Дасягненні дваццацігоддзя выклікаюць захапленне і павагу да ПНР на шырокім свеце.

Аб гэтым сведчаць хаця б нашыя адносіны з заграніцай, якія ніколі ў сваёй гісторыі не былі такімі ажыўленымі ў галіне эканомікі, дыпламатыі, навукі і культуры, як у цяперашні час. Зразумела, што сённяшні аўтарытэт ПНР не магчымы быў бы нават пры найлепшай дыпламатыі, калі б у аснову нашых адносін з заграніцай не ляглі дасягненні нашай гаспадаркі, а таксама вынікі сяброўскага саюза, які злучае ПНР з СССР і другімі сацыялістычнымі дзяржавамі,

Аб'ектыўным выяўленнем нашай жыццёвасці ў міжнародных адносінах з'яўляюцца нашы гандлёвыя абароты з 150 дзяржавамі свету. Істотная з'ява ў гэтай галіне — гэта усё растучая колькасць нашых партнёраў, але перш за ўсё змяняецца вельмі карысна структура нашага заграчнічнага гандлю, у якім машыны складаюць цяпер 34,2% экспарту (перад вайной толькі 1%). На працягу кароткага этапу — 1955—1962 гадоў ПНР даставіла замежным пакупнікам 126 камплектных аб'ектаў прамысловасці. Такі растучы экспарт нашага маладога суднабудаўніцтва, аўтамабільнай, трактарнай, а назат электроннай прамысловасці стаў магчымы толькі дзякуючы дынамічнаму развіццю ўсёй нашай народнай гаспадаркі. Без гістарычнага прэцэндэнту застаецца маштаб росквіту асветы і навукі, як у сэнсе яе распаўсюджвання, так і пасляваеннага набытку навуковай думкі.

У ПНР вучыцца ў пачатковых, сярэдніх, прафесіянальных, дзённых і вечаровых школах больш 8 мільёнаў вучняў. Колькасць студэнтаў узрасла ў чатыры разы і складае каля 200 тысяч чалавек.

(Працяг на стар. 4)

## Супольнае святкаванне

**Ліпень знамянальны месяц у жыцці двух братніх народаў беларускага і польскага. У ліпені Савецкая Беларусь была вызвалена ад нямецкіх захопнікаў. Ад 22 ліпеня датуецца гісторыя народнай улады ў Польшчы. З таго часу мінула дваццаць год. Гэта не ёсць вялікі перыяд часу. Але няхай пройдуць стагоддзі, а слава аб тых, хто вызваляў нашу зямлю, нашу краіну будзе жыць вечна. Ніколі не згасне ў памяці народаў бязмежнае захапленне подзвігамі савецкіх воінаў.**

**Беласточчына і Гродзеншчына мяжуюць з сабою. Паміж Беластоцкім ваяводствам і Гродзенскай вобласцю існуюць сяброўскія кантакты, існуе вельмі карыснае супрацоўніцтва ва ўсіх галінах. І таму дваццацігоддзе ліпенскіх знамянальных дат будзе адзначана супольна на вялікай сустрэчы — фестыне 26 ліпеня на савецкім баку, непадалёк вёскі Баброўнікі (Беластоцкі павет). Туды прыбудуць тысячы людзей з двух бакоў. Прадбачана многа цікавых мерапрыемстваў. (мх)**



## Фестын у Янове

У сувязі з XX гадавінай Народнай Польшчы ў Янове адбыўся фестын, арганізатарам якога былі аддзел беларускага таварыства ў Гайнаўцы і мясцовыя ўлады і арганізацыі. З Даратынкі, Нарві, Кленік, Пухлаў, Трасцянкі і іншых вёсак прыбыло многа моладзі. З дакладам аб развіцці беларускай культуры выступіў інструктар галоўнага праўлення на Гайнаўшчыне магістр Мікола Лобач. Пасля даклада пад апладысменты прысутных выступіла эстрада «Лявоніха». З вялікім поспехам выступаў таксама аматарскі мастацкі калектыў са Старога Ляўкова. Пасля мастацкай часткі пачалася забава. Іграў вайсковы аркестр. Весела гулялася моладзі і старэйшым. Да позніх гадзін вечара раздавалася ў лесе рэха беларускіх песень.

Г. Тапалянская
в. Трасцянка

## У памяшканні ГП БГКТ

**Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку, адзначаючы XX-годдзе Польскай Народнай рэспублікі, арганізаваў танцавальную вечарыну ў памяшканні ГП, якая адбылася вельмі цікава і культурна.**



**З дакладам выступае інструктар ГП БГКТ Мікола Лобач.**

## ЗЕЛЯНЕЮЦЬ СЕНАЖАЦІ

**Вёска Новае Ляўкова (Гайнаўскі павет) распалажана сярод палёў і надрэчных лугоў - сенажацяў. Сяляне штогод косяць траву на сваіх лугах, якіх тут паміж Баброўкай і Нараўкай, а таксама ў большай колькасці над рэчкай Баброўкай каля 70 гектараў. Першы пакос збіраюць у чэрвені — ліпені. Але другі пакос не заўсёды ўдавалася звезці ў клуні. Рака шырокім возерам разлівалася па сенажацях і атава аставалася зімаваць пад лёдам. Сяляне пісалі ў доўгія асеннія вечары прашэнні аб дапамозе да павятовых улад. Высылалі пасольства. У 1963 годзе на лугах ляўкоўцаў была праведзена меліярацыя. І ўжо бягучы год паказаў яе дабрадзействы. Вада ні разу не выступіла з берагоў, дно ракі патлыблена, а таксама ў некаторых адрэзках на рацэ зроблены плаціны і заставы на выпадак сушы. Меліярацыя праведзена да канца. У Ляўкове арганізавалася водная суполка. Яна будзе гаспадаром меліярацыйных абсталяванняў на рэчках Баброўка і Нараўка, якую неўзабаве будуць рэгуляваць. Першы год пасля меліярацыі быў надзвычай ураджайным, а гэта будзе садзейнічаць павелічэнню жывёлагадоўлі.**

Апрача гэтага ляўкоўскія гурткоўцы купілі другі трактар з камплектам сельгасмашын. У гэтым годзе першы раз у жыцці вёскі на лугі выехалі касіць трактары. У сярэднім адзін трактар выкошвае ў дзень 7,40 га. Гэта непараўнальна хутчэй, чым касіць касой (1 га трэба касіць аднаму касцу 2 — 3 дні). Каб скасіць аднаму касцу 70 га ляўкоўскіх лугоў, трэба 210 дзён, а трактар зробіць гэта за 10 дзён. Гурткоўцы ў першую чаргу скасілі траву ўдовам Марыі Сахарчук і Фені Жукоўскай. За адну працагадзіну аднасяльчане ў сярэднім плацяць па 60 зл. І «рызыкаваць» на многа аплачваецца. Уборка сена праводзіцца паспяхова, без затрымкі з-за надвор'я. Нашым трактарыстам Сашу Хаманюку і Сярожу Саевічу належыцца шчырае дзякуй. Пры іх доглядзе стальныя коні працуюць без затрымкі, нават у самую найбольшую чэрвеньскую спякоту.

Гаспадаром над сельгасмашынамі гуртка сяляне выбралі аднагалосна Валодзю Паскробку. Штогод больш сялян сее збожжа сеўнікамі. З кожным годам расце колькасць сіласных ямаў. Гаспадары пераконваюцца, што сілас — гэта высакаякасны і добры корм для жывёлы. Галоўны націск у сваёй працы гурткоўцы кладуць на механізацыю. Яны ўжо маюць сеялкі, малацільны агрэгат, машыну для апыльвання і другія гаспадарчыя машыны.

Гурткоўцы рэжуць сечку сячкарняй з маторам і ўвосень пачнуць механічную апрацоўку ільну, аблягчаючы працу жанчын. Селянін Павел Галубоўскі і яго сын Кастусь вядуць доследныя ўчасткі і часта атрымліваюць высокія грашовыя прэміі. Доследы дапамагаюць сялянам павялічыць ураджайнасць палёў. Шкада, што галоўнай сілай у развіцці сельгасгуртка ў Ляўкове, не з'яўляецца на жаль моладзь. Усё яшчэ мала дзяўчат і юнакоў канчае школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. На доследных участках моладзь вырошчвае буракі, рапак і моркву. Ураджаі атрымоўваюцца вялікія, але на малых плошчах.

Цяпер сяляне мараць звалаваць сенажаці, бо вада абнізілася і неабходна траве вада, якая не дастае да верхніх слаёў. На другі год многія стаяць на баку тых сялян, якія хочуць узараць лугі і засеяць высакаякаснымі травамі. Дзякуючы добрай працы вясковага гуртка, у гурток запісалася больш гаспадароў. Нават тыя самыя асцярожныя на перамены ў вёсцы — ужо ў большай колькасці члены гуртка. Перамагае час і супольнае змаганне аднавяскоўцаў за лепшыя ўраджаі сваіх палёў і сенажацяў.

Янка Цялушэцкі
Новае Ляўкова

## СКВЕР — РАВЕСНІК ДЗЯРЖАВЫ



Там, дзе бачыце на здымку сквер, зарослы дрэўцамі, да 1941 года стаяла прыгожая, пабудаваная ў стылю адраджэння, сямяцiцкая ратуша — традыцыйная сядзіба гарадскіх улад. Яе разбурылі гітлераўскія акупанты. Потым жыхары горада пасадзілі там дрэўцы, залажылі клумбы, засеялі траву і кветкі. Месца даўнейшай ратушы стала куточкам сустрэч закаханых і тых, што пасля работы жадаюць сабе падыхаць свежым паветрам. Шкада толькі, што замест салавейкаў нястомна і шумна спявае тут рэпрадуктар, якому нават камнем не заткнеш горла.

Калі прыдзецца вам быць у Сямяцічах, зайдзіце ў касцёл, які будавала яшчэ княгіня Ябланоўская — уласніца горада Сямяцічы і наваколля. Касцёл гэты, апрача вельмі старых і цэнных малюнкаў і скульптураў, якія ўпрыгожваюць яго нутро, заслугоўвае на ўвагу як цікавы архітэктурны помнік. Выразна відаць, асабліва ад рэчкі, што будаваны ён быў перш за ўсё як умацаваная крэпасць на выпадак нейкага ворага. Гэтую думку пацвярджае таксама месца яго пабудовы.

Тэкст і фота В .Рудчык

## ЗАМЕСТ КВЕТАК

**(Працяг са стар. 1)**

Каштоўны падарунак З'езду прыпаднеслі жыхары самога горада Бельска. Улады горада заявілі Прэзідыуму З'езда аб поўным, 100% выкананні плана збору добраахвотных складчын на фонд пабудовы школ - помнікаў 1000-годдзя польскай дзяржавы. Зрэшты, увесь Бельскі павет у гэтай галіне мае высокія дасягненні, а ў чэрвені адзначаны своеасаблівы рэкорд. На грамадскі фонд пабудовы школ грамадзяне Бельшчыны склалі каля 500 тысяч злотых — столькі, як за 5 папярэдніх месяцаў. Першага ліпеня ўжо зусім нямнога заставалася ім да поўнага выканання плана. Цяпер, на Дзень Адраджэння, жыхары вёсак і гарадоў Бельскага павета поўнасцю споўнілі свой грамадзянскі абавязак. Гадавы план збору добраахвотных складчын на грамадскі фонд пабудовы школы яны маюць ужо поўнасцю выкананы.

В. РУДЧЫК

## КРЫНКІ — МЯСТЭЧКА

У Беластоку ведаюць аб Крынках, бо туды пяць разоў у суткі ідзе поезд. Але гора службоваму працаўніку, які выберацца ў Крынкі поездам. Выйдзе з вагона і ўбачыць адзін дрымучы лес ды пару станцыйных будынкаў. Запытае ён дзядзьку пра Крынкі, а той, пачухаўшы патыліцу, пачне тлумачыць:

— Паночку, да праўдзівых Крынак будзе адсюль, пэўна, з дваццаць вёрст ды ўсё лесам...

У гэтыя праўдзівыя Крынкі курсуюць толькі аўтобусы — штодзень шэсць разоў — праз Супрасляўскую пушчу, гасцінцам, і сакольскаю шашою. Уязджаючы ў Крынкі, зусім не здаецца, што гэта былы сямітысячны прамысловы горад. Яго знішчыла дашчэнту апошняя вайна...

Спачатку кідаюцца ў вочы гумны і хлявы, хаты і гумовыя вазы на вуліцы — фармальная вёска. Толькі, калі аўтобус уедзе на ўзгорак Сакольскай вуліцы, тады відаць першыя мураваныя дамы, потым рынак, на якім закладаюць цяпер сквер; відаць крамы з каляровымі шыльдамі, ну і відаць гаспода, вядома, не таму, што яна на відным месцы, не. Каля яе заўсёды рой (нярэдка) падхмеленага мужчынскага народу...

Па-над дахамі копціць комін гарбарні, якая прадаўжае традыцыю слаўнай калісьці крынкаўскай гарбарскай прамысловасці.

Ад некаторага часу чыніць рух у мястэчку сельскагаспадарчы асяродак, якім кіруе заўсёды энергічны Міхась Шуткевіч. У 1963 г. было тут тры трактары, 4 прычэпы, 2 малатарні, сеялка, сеўнік на штучныя ўгнаенні, снапавязалка, 3 плугі, бульбасаджалка, бораны... Цяпер дакупілі шмат новай тэхнікі — трактар «Ц 328», дадатковыя машыны, плуг, культыватар, навюткую снапавязалку, бульбакапалку, сеялку і г.д. Асяродак вядзе ўласную гаспадарку — сорак гектараў жыта, 35 гект. аўса, 7 гект. ільну ў юраўлянскіх палетках. На восень рыхтуе 60 гект. пад азімыя культуры.

Тэкст і фота с.я.



**Сакольскі МПРБ рамантуе дамы. На здымку бачым рыштаванні пры вуліцы Гарбарскай 6 Калісьці, пасля вызвалення, знаходзілася тут школа. Цяпер жыве восем сем'яў, а дзеці вучацца ў прыгожым будынку, адбудаваным пасля ваенных пажараў.**




### ЖОНКА

— Як табе жывецца? Задаволены сваёй жонкай? Добры яна мае характар?

— Характар у яе добры, але я не здаволены ёю.

— Чаму?

— Таму што яна рэдка ім карыстаецца.

### САЛАМОН АБ ПРАВЕ

**— Што такое права? — запыталі Саламона вучоныя духоўнікі.**

**— Права, — адказаў кароль; — гэта пража павука, у якой гінуць толькі малыя мухі; вялікія патрапяць з яе вызваліцца.**

### На рыбалцы



**Як гэта даць ім знаць, што і гэты чарвяк ужо з'едзены?**

### АСЦЯРОЖНЫ

— Мой муж доўга застанаўляўся, пакуль звярнуўся з прапановай выйсці за яго замуж.

— Так, гэта праўда, што асцярожныя заўсёды найгорш правальваюцца.




**Калі хочаш ведаць, што аб табе думаюць зняваж свайго суседа.**

### З БЛЯСКАМ

**— Ты ўсё чэрніш! — папракала Шчотка Ваксу.**

**— Так, чарню. Але — з бляскам.**

★

**— Бацька, ці 500 зл. — гэта многа грошай?**

**— Гэта, сынку, залежыць ад таго, ці я іх зарабляю ці мама выдае.**

### НА ЭКЗАМЕНАХ



Прафесар:

— Чаму вы нервуецеся? Няўжо вы баіцеся маіх пытанняў?

— Зусім не. Я баюся сваіх адказаў.

### СТАРТ...





### ...І ФІНІШ

### ПАСАЖЫР

**Кантралёр будзіць спячага пад акном пасажыра.**

**— Прашу білет.**

**—Білет! Не маю білета.**

**— А куды грамадзянін едзе?**

**— Я нікуды не хацеў ехаць.**

**— Дык якім цудам грамадзянін у цягніку?**

**— Перапалохаўся. Кандуктар так загадваюча крыкнуў: «Сядаць», што і я сеў.**

### ПАМІЖ СУСЕДЗЯМІ

Дзве суседкі спаткаліся на вуліцы:

— Вельмі ўсхвалявалася, калі ўбачыла, што раніцай выходзіў ад вас ксёндз.

— Чаму?

— Таму што думала, што вы ўміраеце.

— Ну, ведаеце, пазаўчора раніцай ад вас выходзіў афіцэр і я нават не падумала, што вайна.

### КУР'ЁЗЫ

### НЕ ЦАЛАВАЦЦА

Згодна з пастановай суда ў Рыо-дэ-Жанейра (Бразілія) уласнікі кіно павінны выводзіць з залаў кіно нялетніх, якія цалуюцца. А гледачы, маючыя больш 18 год, могуць цалавацца без перашкод. Вядома, калі дакажуць, што ім больш як васемнаццаць.

### У КІНО З МЕТРЫКАЙ ШЛЮБУ

Таксама і Аўстрыя не адстае ад Бразіліі. Усюды ў Ворарбергу выдалі загад, што моладзь ад 18 да 21 года можа быць на сеансе толькі тады, калі прадставіць кантралёрам пасведчанне аб шлюбе.

### КАСМІЧНАЯ КАЛЫСКА ЛЕНАЧКІ —



дачкі Валі і Андрыяна.

## ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

**Заклікаў актыў да самакрытыкі, а калі яго скрытыкавалі, звольніўся з працы.**

**Ёсць дальтаністы, якія адрозніваюць колер толькі на грошах.**

**Бацькі скідаюць выхаванне дзяцей на школу, школа — на бацькоў, а хто адказвае за існаванне хуліганаў?**

**Кожная хлусня ўзнікае на падставе праўды і таму цяжка яе распазнаць.**

**Найхутчэй арганізоўваюцца суполкі прафесіянальных п'яніц.**

## Ў ЦЫРУЛЬНІКА



**— Што вы зрабілі з Малгосі!**

**— Выбачайце, я думаў, што гэта хлопчык.**

## Нараджэнне клуба

Сабраліся мы з выпадку прыезду невядомага таварыша з вядомай установы «Рух». Спадабалася наша вёска «Руху» і ў нас адкрылі клуб-чытальню.

— Грамадзяне земляробы, — гаварыў прыезжы, — вы, перадавікі сельскай гаспадаркі, заслужылі на культурны адпачынак.

— Цудоўныя словы, аж просяцца ў пратакол, — кінуў рэпліку нейкі голас.

— Галоўнае, быць перадавіком у полі, а не ў пратаколе, — адказаў дакладчык і працягваў: — Будзем у клубе прадаваць газеты, папяросы і ўсё іншае, што бачыце ў нашых кіёсках. Прывязем у клуб-чытальню новую мэблю, паставім тэлевізар, экспрэс на каву. Папіваючы каву, будзеце як у вялікіх гарадах, у выгоднай абстаноўцы абмяркоўваць цікавячыя вас праблемы.

— Лакіруюць вёску, а мы як аралі, так і будзем араць, — раздаўся зноў той самы голас.

— Сказаў, што знаў, — умяшаўся Фама. — Раней гнуліся над сахой, а цяпер трактарам чэшам зямлю. Табе б носам араць, тады было б па-новаму.

— Ніякая навінка сама не прыйдзе ў вёску, — гаварыў далей дакладчык. — Актыўнасць жыхароў уводзіць у сельскую гаспадарку агратэхніку і хуткасныя метады будаўніцтва. Боб — не грыб — не пасееш, не ўзыйдзе. Новы светапогляд грамадзян і іх адносіны паміж сабой залежаць ад вас саміх. Раю чытаць часопіс «Новая вёска».

— Часопіс новы, а хаты старыя, — выкрыкнуў супярэчнік.

Фама павярнуўся ў бок голаса і сказаў:

— Сам умеў бы быць разумнейшым. Хто не дае новы дом ставіць? Шкадуем грошай, латаем старыя хібаркі, пакуль не перакосяцца. Любім як найменш выдаваць, а больш браць. Дзякуй дакладчыку, абяцае тэлевізар. А маглі б мы самі скласціся грашом, дык даўно б бачылі ў тэлеакенку, што на свеце робіцца.

— Паважаныя грамадзяне, прапаную перанесці спрэчкі ў будучы клуб, а пакуль што абмяркуем, дзе зрабіць клуб-чытальню. Пустуе будынак старой школы. «Рух» не можа рамантаваць чужы маёнтак. Матэрыялы на рамонт дае гээс і грамадская рада. Калі згодзіцеся грамадскімі сіламі адрамантаваць памяшканне, дык мы абсталюем клуб, — закончыў дакладчык.

Людзі прыціхлі, затым некалькі галасоў раздалося адразу:

— Новую школу дапамагалі будаваць. Дарогу да гасцінца самі ўкладалі. Цяпер націрай мазалі з клубам!

— Не ў вас, дык у іншай вёсцы адкрыем клуб. Гэта справа добраахвотная, — растлумачыў дакладчык.

— Усе нашы справы добраахвотна - абавязковыя. Дуй, Фама, ты мудрэйшы, — запрапанаваў хтосьці.

— Печку паставіць памагу, — адказаў Фама.

— Пячнік ёсць, справа за цеслярамі і мулярамі, — сказаў дакладчык.

— Дах працякае, кроква перагніла, не вытрымае чарапіцы, — прыпомніў дзядзька Гаўрыла.

— Гонтай пакрыем, вогнетрывалай фарбай памалюем, — запрапанаваў Фама.

— А маляр у нас кожны — самога чорта размалюем, — сказаў дзядзька Гаўрыла і дадаў: — і за цеслярамі ў горад не паедзем, самі зробім.

— Эх, вы, душы рагатыя! Навошта ж цягнулі ката за хвост, калі ўсё так складана выходзіць, — прамовіў дакладчык.

— Ты, дарагі чалавек, не злуйся. З народам заўсёды так: спачатку людзі языкі павострацъ, паспрачаюцца паміж сабой, паругаюцца. Потым як возьмуцца, дык глядзі што і хату на другі бок перавернуць. Народ у нас майстэрскі. Умельцы сшыюць камару кафтан, мусе рукавіцы звяжуць, блыху запрагуць у аглоблі, — выказаўся Фама.

Прысутныя зарагаталі, можа з радасці, што не так ужо цяжка адрамантаваць хату, як падкаваць таракана, а можа проста цешыліся, уяўляючы сабе новы клуб з тэлевізарам.

*Дзядзька Лявон*

## АКЕНЦА ДУМАК

### САКРАТ АБ ЛЕКАРАХ

**Вялікага грэчаскага філосафа Сакрата запыталі, што ён думае аб лекарах. Сакрат даў адказ наступнымі словамі:**

**— Лекары маюць выключнае шчасце. Сонца апраменьвае іх поспехі, зямля прыкрывае іх хібы і памылкі.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**Па просьбе Мікалая Сухадолы са Слабодкі, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню**

## Россия - Родина моя

**Когда иду я Подмосковьем,**
**Где пахнет мятою трава,**
**Природа шепчет мне с любовью**
**Свои приветные слова.**
**Вдали рассветная полоска**
**Осенним пламенем горит.**
**Моя знакомая березка**
**Мне тихо, тихо говорит:**

**Припев:**
**Россия, Россия —**
**Родные вольные края!**
**Россия, Россия,**
**Россия — Родина моя!**

**Когда порой плыву по Волге,**
**Дышу прохладою речной,**
**Гляжу, гляжу, на берег, долго**
**Не расстается он со мной.**
**Ему машу, машу рукою,**
**И берег рядышком идет,**
**И кто-то поздно за рекою**
**Раздольным голосом поет:**

**Припев.**

**Когда меня московский поезд**
**Уносит в дальние места,**
**Хлеба мне кланяются в пояс,**
**Мигает ранняя звезда.**
**На голос Родины я вышел.**
**Как ты, Россия, хороша!**
**Смотрю вокруг и сердцем слышу —**
**Поет, поет моя душа.**

**Припев.**

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458. Bitk L-1